
Аб'ява
Тэрмінова,
Тэрмінова
Патрабуецца
Карова,
Не з салодкім
Малаком,
А з шырокім
Языком,
І даўжэзным,
І шурпатым,
І таўшчэзным,
І вялізным,—
Каб памог ён
Маме з татам
Форму школьную
Вылізваць!


Пільная просьба
На тэлестудыю цяля
Забегла з просьбай пільнай,
Каб выпускалі ўрэшце для
Цялятак
ЦЯЛЯфільмы!

# Колькі засталося?



Кожны дзень
Па зайчанятку
Заганяў
Да ліскі ў хатку
Шэры воўк,
Вядомы злыдзень,
Заганяў тры дні
І тыдзень.
Потым тыдзень
Па парадку
Выпускаў
Па зайчанятку.
Вам патрэбна
Здагадацца,
Колькі
Засталося ў хатцы?

## Як дражніць Бубнілу?

Бубніла-нудзіла
Бубнела,
Хадзіла,
Пакуль кракадзіла
З далёкага Ніла
Не разбудзіла.
Прачнулася ўранні
Бубніла
У жываце кракадзіла!

## Жара

Проста жах —
Гарыць калодзеж,
Аж пад неба
Полымя.
Чым астудзіш,
Ахалодзіш?
Не рукамі голымі!
Што рабіць?

Бяда
Адна —
Выгарыць вада
Да дна.
Што рабіць
І што рашыць?
Як ваду
Вадой тушыць?!.

## Ты чуў? Ты чула?

Ты чуў?
Вырас у кошкі чуб.
Ніяк не зачэша яго
Да канца,
І просіць у пеўня яна
Грабянца.

Ты чула?
Кіта
Праглынула акула.
Акула
На дно нырнула.
А кіт
Хоча пабачыць блакіт.

Вы чулі?
Ваўкі надзелі кашулі,
Кожны
Стракатую ў клетку
Каўбойку,
І з вераб'ямі
Палезлі ў бойку.

Нікому аб тым
Не кажыце і ў сне.
Прачнецеся, дзеці,
Раскажаце мне.



## На шашы

Штохвіліны на шашы
Шумна, як на кірмашы.
Шоргат,
Шорах,
Шум птушыны.
За машынаю машына.
Нешта шэпча
Шына шыне.
Шпак шыкуе
На шыпшыне.
А пад шатамі ў цішы
На ляшчыне спарышы.
У капелюшы спарыш,
Пашукай спарыш, малыш!
Шпарка па шашы ў кашы
Пашыбуюць спарышы.
Шэпча шустрая шаша:
— Не спяшайцеся,
Ша-ша...






Колькі будзе
Пяць на пяць?
Слон не можа ўцяміць.
Значыць,
Трэба завязаць
Вузялок на памяць!

І не доўга думаў слон,
Завязаў свой хобат.
Раніцой прачнуўся ён —
Мае новы клопат.

П'юць ваду
Вярблюд,
Індык.
Слон у перапудзе:
Як развяжа хобат,
Дык
Правіла забудзе.

Хто параду можа даць?
Млосна ад развагі:
Лепей ведаць
Пяць на пяць
Ці канаць
Ад смагі?!



## Як быць?



## Памагла

Працай рупнаю заняты
Аж да ночы жабяняты.
Жвіру мокрага награблі,
Захацелі ўзвесці грэблю.
Папрасілі цётку-качку
Праз балота ў купінах
Перавезці
Гліны тачку —
І яна затупала.

Плачуць каччыны сваячкі —
Ані тачкі,
Ані качкі...



## Электракобра

Што такое?
Што такое?
Чыстым стала ўсё ў пакоі.
На падлозе,
Стэлажах
Хто
на пыл
наводзіць жах?
Гэта ў нас
Працуе добра
Шустрая электракобра.
У разетку хвост уткні —
І любуйся з чысціні!
Прачынаецца на золку,
Чыста чысціць, як мяце.
Цацкі,
Што ляжаць без толку,
Апынуцца ў жываце.
Буду бруднай —
І мяне,
Абяцала,
Заглыне!

# Колькі кошак?






Берагам ішоў Цімошак,
Нёс цяжкі лазовы кошык.
Варушыўся дужа кошык —
Там сядзела многа кошак.
Адпачыць схацеў Цімошак,
Задрамаў —
Раскрыўся кошык.
Кошкі хітрыя паволі
Разбрыліся ўсе па волі.
Кошка першая пайшла
Частавацца да бусла.
Пачастунак надта слабы —
Не да смаку кошцы жабы.
А другая кошка Мурка
З вераб'ём гуляла ў жмуркі.
Дзве сачылі за вавёркай,
Дзве схаваліся за горкай.
Дзве збаяліся ваўкоў,
Хвост на плечы —
І дамоў!
Спаў Цімошак да цямна,
Засталася з ім адна.
Колькі ўсіх спярша, скажы,
Кошак трэслася ў кашы?

# Што было б тады б, калі б?

Што было б
Тады б,
Калі б
З'еў бы воўк
Ваўчыны грыб,
Далічыў мядзведзь
Да двух,
Паляваў арол
На мух?

Што было б
Тады б,
Калі б
Рос у хаце
Эўкаліпт,
Выйшаў бы
Слімак на крос,
Пасвіў слон
Бадлівых коз?

Хто хутчэй з вас
Дасць адказ,
Першы
Той засне якраз.
Гэта ў сне
І ў небыліцы
Можа збыцца
І адбыцца!



